# Самапомач Заморомах

Беларуская кооператыўна-гаспадарчая часопісь

Год IV. | Вільня, Лістапад 1935 г. | № 11.

Хай злыдні над намі,
скрыгочуць зубамі
Любі сваю ніву, свой
край,
І, колькі ёсьць сілы,
да самай магілы
Ары, барануй,
засявай!..

ЯНКА КУПАЛА.



Усе вялікія падзеі народаў і ўсе цывілізацыі былі створаныя дабравольнымі стараньнямі аб'яднаных людзей... самапомачу.

Джорджж РЭССЭЛЬ
(Ірляндзец).



## ЗЬМЕСТ № 11 (41).



## Ceny ŭ Vilni

*13.XI.35. Ceny za 100 kilohram.*

**Zbožža.**

*(Pry kupli – prodažy)*

| | |
|---|---|
| Žyta, I | —13 70 |
| Muka pšaničnaja 1 sort | 22 00—29.75 |
| Muka žytniaja da 45 % | —23 00 |
| Muka žytniaja da 55 proc. | —20.50 |
| Siamieńnie lannoje 0.90% | 30 25—32 65 |

*(Ceny z papiarednich dzion)*

| | |
|---|---|
| Žyta | 13 50 -14 00 |
| Pšanica | 17 75—18.25 |
| Jačmień na pansak | 12 50—13 50 |
| Avios | |
| Muka pšaničnaja | 21.75—30 75 |
| Muka žytniaja da 45% | 23.00- 23.50 |
| Muka žytniaja da 55% | 20.50 - 21 50 |
| Muka, žytniaja da 90% | 16 25 16 50 |
| Pialuška | 24 00—25.00 |
| Vika | 20 50 -21.50 |
| Łubin sini | 8 25 – 8.75 |
| Siemia lannoje 0.90% | 30 00 - 31.00 |
| Lon standaryzawany (za 1000 kilo) | |
| „ trapany, Vałožyna | 1540— 1580 |
| „ „ Miory | 1410 1450 |
| „ „ Traby | 1580 1620 |
| „ „ Harodziej | 1640 1680 |
| „ časany, Harodziej | 2100—2140 |
| „Tarhaniec" | 1170— 1210 |
| Makuchi lannyja za 100 kilo | —16.00 |
| „ sonečnikavyja | 17 00 |
| „ repakavyja | 13 00 |

**Miasnoje, 12.XI za 1 kilo žyvoj vahi**

| | |
|---|---|
| **Bydła:** | |
| stadniki | 0.25 – 0 35 |
| karowy | 0.30— 0.45 |
| cialaty | 0.50— 0 60 |
| Aviečki: | 0.50— 0.60 |
| Švini | 0.75 – 0.85 |

**Za 1 kilo bitaj vahi.**

| | |
|---|---|
| Vałovina, całyja štuki, | 0.55 0.65 |
| „ zady | 0.70 –0.80 |
| Vałovina pierady (košer) | 0 80 – 1.00 |
| Cialacina, | 0.95 –1.10 |
| Švinina | 1 00—1.10 |
| Baranina | 0.80—0 85 |

**Skury syryja.**

| | |
|---|---|
| Skury bydlačyja, syryja, za štuku | 8 50 |
| Skury cialačyja, za štuku | 5.75 |
| „ aviečyja „ „ | 4 00 |

**Małočnaje za 1 kilo (14.XI 35.)**

| | |
|---|---|
| Masła najlepšaje, 1 sort za kil. ŭ hur | 3.00—3 10 |
| „ „ „ „ „ u detalu | 3.40 |
| Masła stałovaje (II hat.) za kilo ŭ hurcie | 2.85 - 2.95 |
| „ „ „ „ „ u detalu | 3 20 |
| Syr litoŭski, za kilo ŭ hurcie | 1 50—2 20 |
| „ „ „ „ u detalu | 1.80 – 2.60 |
| Syr ementalski (švajc.) za kilo ŭ hurcie | 2.80— 2.90 |
| „ „ „ „ „ u detalu | 3 50 |
| Jajki, kapa | 6 00—7 50 |
| „ za štuka | 11—14 hraš. |

Samapomač

BIEŁARUSKI KOOPERATYŪNA - HASPADARSKI ČASAPIS.

Adres:
VILNIA (Wilno), Połackaja vul. 9–4.

Самапомач

| Hod IV. | Vilnia, Listapad 1935 h. | Nr. 11 (40). |
|---|---|---|

*Kooperatyūna-haspadarskija naviny.*

**40 hadoū Mižnarodnaha Sajuzu Kooperatyvaū.** U žniūni m-cy sioleta minuła 40 hadoū ad času, kali byū zasnavany Mižnarodny Sajuz Kooperatyvaū. Było heta ū Londynie (Anhlija). Na źjeździe było 207 delehataū z 14 krajoū. Siahońnia da hetaha Sajuzu naležać 143 nacyjanalnyja sajuzy z 40 krajoū z 100 mil. siabroū.

**Jubilei.** Centralny Sajuz čechasłavackich ziemlarobskich kooperatyvaū u kancy m-ca kastryčnika siol. ūračysta śviatkavaū 60-yja ūhodki žyćcia svajho zasłužanaha staršyni i arhanizatara inž. F. K l i n d e r y.

Polskija kooperatyvy śviatkavali 10 listapada siol. 25-yja ūhodki śmierci zakładčyka i pieršaha kooperatyūnaha pracaūnika ū pruskim zabory ks. W a w r z y n i a k'a.

**„Masłasajuz" — u mastactvie.** Ukrainskaje małačarstva sarhanizavana ū silnuju centralnuju arhanizacyju „Masłasajuz". Na kolki hety „Masłasajuz" jość papularnym siarod ukrainskaha nasielnictva, pakazvaje fakt, što ukrainskija mastaki słova i pieśni vykarystali „masłasajuznaje" žyćcio dla novaj operetki p. n. „Dziaūčo z Masłasajuzu". Słovy da operetki hetaj napisaū Pawłusevyč, a muzyku — Barnyč. — Ukrainskaje hramadzianstva spatkała i aceńvaje novuju operetku vielmi prychilna.

**Tekstylnaja kooperatyva.** U Lvovie sarhanizavałasia novaja tekstylnaja kooperatyva, jakaja ūžo ūruchomiła svaje mechaničnyja i ručnyja varstaty, na jakich vyrablacimie roznaha rodu pałotny z bavoūny, voūny, lonu i kanapiel, dalej—ručniki, nastolniki, pościełki dy vaūnianyja samadziely. Novaja kooperatyva skuplaje roznaha rodu ručnuju pražu: z lonu, kanopli i voūny. — Źviartajem na heta ūvahu i našych biełaruskich sialan.

**Novy typ kooperatyvy ū Polščy.** Polskaja eugeničnaje T-va (eugenika — navuka ab zdarovaj plamiennaści ludztva) zaprajektavała zasnavańnie pa ūsiej Polščy cełaj sietki eugeničnych kooperatyvaū, zadańniem jakich maje być: pomač dla mładažonaū, dla maładych kabiet u połahu i ū časie sajeńnia, ureście pomač na vychavańnie dziaciej.

**Jašče adna „reforma" abo prykład da nienaśladavańnia.** Ad času, kali polskaja ziemlarobskaja pierad usim kooperacyja biaz sytych hrašovych uspamohaū akazałasia mała, a miascami i zusim niežyćciazdolnaj, pačałosia šukańnie „vinavatych", układańnie novych prajektaū i h. d. Adny takija prajekty (npr. sučasny kooperatyūny zakon) byli viedamymi adrazu, a ab inšych daviedvajecca hramadzianstva tolki ciapier, pa troch hadoch. Da hetkich prajektaū niekooperatyūnaj kooperacyi naleža i sproba paleskaja, ci lepš — drahičynskaja, ab katoraj tolki što daviedvajemsia z fachovaj ziemlarobskaj presy, choć paūstała jana jšče ū 1932 h.

U lipni m-cy 1932 h. pavietavy starasta ū Drahičynie sarhanizavaū „Związek Gmin Powiatu Drohiczyńskiego" i hetkamu „Związku" ułažyū u abaviazak usio: arhanizavać narodnyja damy, čytalni, biblijateki, kursy, referaty, vydaviectva, ekskursyi, vystaūki, źjezdy, arhanizacyja i zbyt praduktaū ziemlarobskaj vytvorčaści, ssypka zbožža, dastaūka nasieńnia i h. d. i h. d. Usio heta maje rabić „Związek" ci lepš — pavietavy starasta praz vojtaū i sołtysaū.

Vykanańnie hetkaj prahramy vymahaje koštaū. Skul ich uziać? Vot-ža i tut vychad sapraūdy „paleski": sialanstva apadatkavana naturaj, pa 2 kilohramy žyta ad hektara ziamli, što ū praktycy aznačaje 25 prac. dadatak da hruntavoha padatku. A značyć: novy padatak.

Nia treba dadavać, što ūsia heta ūspamoha kaštuje ū kancy kancoū vielmi doraha. A aprača taho, jana zabivaje ū ludziach usiakaje pačućcio adkaznaści za svaje čynnaści: ludzi zmušany ahladacca, čakać, „što skaža pan starasta"? — Słovam, heta prykład, jakoha nia možna naśladavać.

**Kolki doūhu maje naša ziemlarobstva.** Pavodle daśledavańnia Navukovaha Instytutu ū Puławach, stan zadoūžanaści biełaruskich ziemlaū pad Polščaj („województwa wschodnie") na dzień 1 lipnia 1934 h. pradstaūlaūsia hetak: haspadarki da 5-ch ha mieli doūhu na 1 ha ū 1931 h. — 312 zł., u 1933 h. — 177 zł. i ū 1934 h. — 152 zł.; u haspadarkach ad 5 da 10 ha na 1 ha było doūhu ū 1931 h.—180 zł., u 1933 h. — 149 zł. i ū 1934 h. — 103 zł.; u haspadarkach ad 10 da 20 ha na 1 ha było doūhu ū 1931 h. — 146 zł., u 1933 h.—123 zł. i ū 1934 h. — 96 zł.; urešcie haspadarki ad 20 da 50 ha mieli doūhu na 1 ha u 1931 h.—112 zł., u 1933 h. — 119 zł. i ū 1934 h. — 91 zł.

# Сельская гаспадарка.

## Да асьветы — праз самаасьвету!

*„А гдзе-ж кніжка для нас мужыкоў?“*
*Фр. Багушэвіч.*

Самыя доўгія прадкаляднія вечары ўжо так як і мінаюць. Асталіся йшчэ вечары зімовыя. Як-жа іх выкарыстаць, каб не прайшлі марна?

Разважаючы гэта пытаньне, супастаўляем яго з тымі весткамі, якія даходзяць да нас з розных бакоў нашае беларускае Краіны. І так: ёсьць мясцы, дзе моладзь асабліва востра адчувае і перажывае сапраўдны голад асьветы: чытае ці лепш – пажырае ўсё, што толькі папала пад руку, без разбору. Гэта прыклад стыхійнага, неарганізаванага гону да асьветы.

У іншых мясцох, як чуваць, гэты гон да асьветы ня йдзе самапасам, але кіруецца — трэба думаць — сьведамай воляй. Напр. ёсьць аколіцы, дзе моладзь пастанаўляе ня піць гарэлкі, ня курыць, — і пастанову сваю срога датрымоўвуе. А хто з-пад гэтай дысцыпліны выламліваецца, таго выстаўляюць на таварыскі байкот. Да чаго пры гэтым даходзіць, сьведчыць прыклад аднаго вясельля (ў Горадзеншчыне), дзе сабраныя госьці-вясельнікі разабралі (так, разабралі!) гаспадару хату затое толькі, што той не згадзіўся прыняць гарэлку з гасьціннага стала. — Тут, як бачым, ёсьць ужо ня толькі нейкая плыўкая жаданьне асьветы (безпляновае чытаньне), але і сьведамы чыньнік выхаваўчы: моладзь ведае чаго хоча і да мэты свае йдзе.

Ня ўсюды аднак так дзеецца. Ёсьць яшчэ і сяголньня у нас такія глухія куты, дзе на заклік „да асьветы!“, „да навукі!“ можна пачуць адказ: „а хто-ж будзе сьвіней пасьвіць, як усе будуць вучоныя?“

Які-ж з усяго гэтага павінен быць высnavak?

Там, дзе ўжо зразуменьне патрэбы асьветы прабуджана, там павінна яна так ці гэтак далей разьвівацца. Горш з тымі аколіцамі, дзе людзі дагэтуль баяцца йшчэ „вучоных пастухоў“. Тут яшчэ пакутуе сапраўды нявольніцкае разуменьне асьветы як збытку даступнага толькі „паном“. І найважнейшым бадай заданьнем дня ёсьць „пераламаць ляды“ ў гэтых „пужлівых“ галовах, ды пераканаць іх, што ўменьне чытаць ды пісаць гэта ня мэта сама, а толькі спосаб ці шлях да мэты.

Правесьці грунтоўнае ўсьведамленьне ў гэтым кірунку магла-б школа. Але ў сучасных варунках, калі мы свае беларускае школы на заходне-беларускіх землях ня маем і калі нават сетка гурткоў беларускіх культурна-асьветных арганізацыяў тут-жа таксама вельмі рэдкая, – у гэткіх варунках астаецца вольным і ня выкарыстаным адзіны толькі спосаб пашырэньня роднай асьветы — **праз самаасьвету.**

У гэтым перакананьні кожны, хто ня трымае свае веды, сваіх здольнасьцяў дзеля монопольнага толькі выкарыстваньня свайго бліжняга, хай дапаможа яму праглянуць на сьвет сваімі собскімі вачыма; хай не пашкадуе фатыгі сабраць 2, 3, 5, 10 сваіх суседзяў і замест траціць з імі час на гульню ў карты, бязвартасныя, а то і проста шкодныя забавы, на дзікія папойкі, — загадзя падабранай кніжкай, газэтай, часапісам — хай зацікавіць іх лепшым жыцьцём.

Вот-жа кожны ў сваім крузе, у сваей аколіцы не марнуйце часу! Арганізуйце супольнае чытаньне кніжак і часапісаў. Усьведамляйцеся культурна, грамадзка і нацыянальна! А тады пазнаеце, што сваімі-ж сіламі, бяз чужой, заўсяды дарагой, помачы найлепш патрапіце палепшыць і сваё штодзеннае гаспадарчае бытаваньне!

Гдзе знойдзецца колькі (3—5 чалавек) асоб ахвотных да саманавучаньня, напішэце пісьмо ў нашу рэдакцыю, а мы пастараемся кожнаму паводле нашых сіл памагчы: добрай радай, часапісам і кніжкай.

Дык усе да працы, усе **да асьветы — праз самаасьвету!**

## Як карміць узімку дойныя каровы.

На іншым месцы сяньняшняга нумару «Самапомачы“ паказана, што малачарства і сягоньня аплачваецца. Калі ж нехта цьвердзіць, што ў ягонай гаспадарцы карова не аплачвае нават самой сябе, дык тут вінават толькі сам гаспадар-земляроб, бо ён: або перадаваў сваей карове корм, які дарма марнаваўся, або тую-ж жывёлу прыморываў голадам і гэтым самым ня мог яе належна выкарыстаць. У абодвух выпадках земляроб мае страту дзеля таго толькі, што не абзнаёміўся з асчаўнымі правіламі навукі аб кармленьні, каторыя паказваюць, як састаўляць дакладныя кармавыя порцыі для дойных кароў, каб яны не галадавалі і не марнавалі лішняй пашы. Аб гэткіх правілах мы тут коратка і пагаворым.

Карова мусіць прыймаць корм дзеля дзьвюх прычын: каб падтрымаць свае сілы і каб мець з чаго выраблаць малако. І адно і другое вымагае, каб корм меў у сабе тыя складовыя часткі, якія патрэбны як дзеля падтрыманьня сіл, так і дзеля вытвараньня малака. Такімі складнікамі ў першую чаргу зьяўляюцца бялкі і вуглягідраты, а пасьля — мінэральныя солі (попел), тукі (клустасьць

і ўрэшце дрывесьнік (цэльюлёза). Найважнейшыя з гэтых складнікаў — першыя два: бялкі і вуглягідраты; прыгэтым яны найлепш выкарыстоўваюцца тады, калі на адну ваговую частку бялкоў даецца шэсьць такіх-жа частак вуглягідратаў.

Але навука сягоньня знае больш; яна знае колькі дакладна такіх складнікаў ёсьць у кожнай паасобнай пашы і колькі такіх-жа складнікаў патрэбна дзеля патрыманьня жыцьцёвых сіл скаціны ды на выпрабленьне аднаго кілёграма малака.

Кароткі перагляд складовых кармовых сучастак найчасьцей спатыканых гаспадарскіх паш дае наступная табліца.

## Склад пашы

| Назоў пашы | Колькі і чаго ў сабе мае | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Вады | Сухой масы | Бялка | Вуглягідрат | Тук клуст. |
| | Грамаў у 1 кілёгр., або на 1.000 ч | | | | |
| Сена мурож., доб. | 143 | 857 | 38 | 257 | 10 |
| " кіслае (балот.) | 130 | 870 | 30 | 218 | 8 |
| " з канюшыны | 165 | 835 | 55 | 260 | 17 |
| " з сэрадэлі | 160 | 840 | 92 | 209 | 20 |
| Гарохвіны | 136 | 864 | 34 | 185 | 7 |
| Мяккіна жытняя | 143 | 857 | 7 | 113 | 4 |
| " пшанічная | 160 | 840 | 9 | 167 | 5 |
| " аўсяная | 138 | 862 | 14 | 199 | 8 |
| Бульба | 750 | 250 | 1 | 189 | — |
| Морхва | 870 | 130 | 4 | 8. | 1 |
| Буракі пашныя | 880 | 120 | 1 | 83 | — |
| Бручка | 915 | 85 | 2 | 55 | — |
| Заквашанае лісьцё пашн. бур. | 776 | 224 | 7 | 54 | 5 |
| Авёс (зярнё) | 133 | 867 | 72 | 448 | 40 |
| Ячмень " | 143 | 857 | 61 | 624 | 19 |
| Гарох | 140 | 860 | 169 | 499 | 10 |
| Віка | 160 | 840 | 179 | 458 | 12 |
| Вотрубы жытнія | 125 | 875 | 108 | 429 | 24 |
| Вотрубы пшан. | 132 | 868 | 111 | 405 | 37 |
| Макух з лёну | 110 | 890 | 272 | 254 | 79 |
| " з каноплі | 120 | 880 | 276 | 103 | 90 |
| " з сонешніка | 92 | 908 | 305 | 160 | 99 |
| " з соі | 115 | 885 | 407 | 275 | 14 |
| Брага | 943 | 57 | 5 | 22 | — |
| Жмыхі з бур.(сьв.) | 930 | 70 | 3 | 40 | — |

Зьяўляецца цяпер пытаньне, як гэтай табліцай карыстацца, каб саставіць кармавыя порцыі для дойных кароў.

Перш за ўсё мусім тут умовіцца што да двух аснаўных назоваў: **бытавой і прадукцыйнай** порцыі. Вот-жа б ы т а в а я порцыя гэта тая часьць пашы, якая патрэбна, каб падтрымаць жыцьцёвыя сілы каровы, а п р а д у к ц ы й н а я порцыя выкарыстоўваецца толькі для выпрабу малака. Высокасьць бытавой порцыі залежыць ад вагі (вялікасьці) самай каровы, а высокасьць прадукцыйнай порцыі — ад колькасьці малака, якое карова дае ў даны мамэнт. Зразумелая рэч, што калі карова малака зусім не дае (цельная), дык у гэту пару яна не патрабуе і прадукцыйнай порцыі на малако, здавольваючыся малым толькі дадаткам на разьвіцьцё плоду (цяляці). Для поўнасьці трэба ўрэшце дадаць, што сам арганізм дойнай каровы як бытавую так і прадукцыйную порцыю не разьдзяляе; гэта знача, што калі напрыклад сьвежа-ацеленая карова і не дастане прадукцыйнай порцыі, то яна ўсё-ж нейкі час будзе малако даваць. Скуль? Коштам свайго арганізму: недаядаючы будзе худзець, але малако будзе даваць.

А цяпер да самай справы.

Навука вырахавала, а практыка разумных гаспадароў пацьвердзіла, што ў бытавой порцыі дойная карова мусіць даставаць па 60 грамаў бялка і па 360 грамаў вуглягідратаў на кожныя 100 кілёграмаў жывой вагі. У прадукцыйнай-жа порцыі тая-ж карова мусіць дастаць па 40 грамаў бялка і па 240 грамаў вуглягідратаў на кожны выдойваны літр малака. Знача, чым больш карова важа і чым больш дае малака, тым большую павінна даставаць порцыю, — і наадварот.

Дапусьцім, што трэба нам вырахаваць кармавую порцыю для нашай м а л о й каровы, якая важыць усяго 300 кілё і дае 10 літраў малака.

У бытавой порцыі гэткая карова мусіць дастаць на кожныя 100 кілё жывой вагі 60 грамаў бялка і 360 грамаў вуглягідратаў, знача на 300 кілё у—тры разы больш:

60 гр.×3= 180 грамаў бялка
360 гр.×3=1080 грамаў вуглягідратаў.

У прадукцыйнай порцыі на адзін літр даецца 40 грам бялка і 240 грам вуглягідратаў, то на 10 літраў—у 10 раз больш:

40 гр.×10= 400 грамаў бялка
240 гр.×10=2400 грамаў вуглягідратаў.

Цяпер злучым бытавую і прадукцыйную порцыю ў адно; атрымаем:

180 гр. бялка і 1080 гр. вуглягідратаў
400 " " і 2400 " " "
580 гр. бялка 3480 гр. вуглягідратаў.

Ведаючы запатрэбаваньне дадзенай каровы на кармавыя складнікі, прыступаем да перагляду і падрахаваньня запасаў паш, якія ёсьць у гаспадарцы. Спатыкаем тут пераважна: сена, салому, мякіну, акопніны; усё гэта мае ў сабе шмат вуглягідратаў і вельмі мала бялкоў. Больш бялкоў маюць такія пашы, як вотрубы, макухі (адпадкі пры выпрабе алею), мука. Зьлічыўшы ўсе запасы пашы, можам падлічыць: 1) колькі зможам даваць у дзень кожнай штуцы жывёлы, 2) колькі чаго астаецца на продаж або 3) колькі і чаго трэба дакупіць.

Прыймем, што ў нашай гаспадарцы, паводле аблічэньняў, можам даць карове ў дзень

3.0 кл. мур.. сена з 114 гр. бял. і 771 гр. вугл.
10.0 „ аўсянкі з 100 „ „ і 1850 „ „ „
8.0 „ бульбы з 8 „ „ і 1512 „ „ „
Разам 222 гр бял. і 4133 гр. вугл.

З папярэдняга аблічэньня мы бачылі, што гэта-ж карова патрабуе 580 гр. бялка і 3480 гр. вуглягідратаў. Знача, у гаспадарскай кармовай порцыі не хапае (580–222=) 358 гр. бялка і ёсьць перабор (4133—3480=) 653 грам. вуглягідратаў. Нашым заданьнем ёсьць цяпер выраўняць гэту порцыю так, каб яна адпавядала запраўдным запатрэбаваньням, гэта знача—дадаць недастаючыя 358 гр. бялка і адняць перабор 653 гр. вуглягідратаў. — Як гэта зрабіць?

Ад порцыі трэба адняць часьць пашы багатую на вуглягідраты ( каторых у порцыі за шмат) і вышукаўшы ў табліцы дадаць нейкую іншую пашу, багатую на бялкі (каторых у пашы за мала).

Шукаем у табліцы і раўнуем з нашымі запасамі. Зьмяншаем порцыю сена да 2 кілё, аўсянкі — да 5 кілё, бульбы — да 7 кілё. Замест гэтага дадаём у корм на штуку і дзень па 1.5 (паўтара) кілёграма добрых пшанічных вотрубаў і 0.75 (тры чвёрткі) кілёграма соявага макуху (адтлушчанага). Атрымаем гэткі склад дзеннай порцыі:

2 кл. сена з 76 гр. бял. і 514 гр. вуглягідр.
5 „ аўсян. з 50 „ „ „ 925 „ „
7 „ бульбы з 7 „ „ „ 1323 „ „
1.50 „ пш.вот. з 166 „ „ „ 607 „ „
0.75 „ сояв. мак. 302 „ „ „ 207 „ „
Разам 601 гр. бял. 3576 гр. вуглягідрт.
А трэба было 580 „ „ 3480 „ „

Гэткая розьніца можа быць яшчэ абніжана зьмяншэньнем напр. порцыі вотрубаў на 0.25 (адну чвёртку) кілёгр. (27 гр. бялка і 101 гр. вуглягідратаў).

Паказаны тут прыклад ня мае прэтэнсыяў усюды і заўсяды быць «прыкладным» (за мала аб'ёмістай пашы!): ён толькі мае за заданьне паказаць **спосаб падбіраньня** кармовых порцыяў.

Каб навучыцца скора і дакладна вырахоўваць кармавыя порцыі, трэба знаць цэлую навуку аб кармленьні, якая ня ёсьць асабліва лёгкай. І таму нават сьветлыя загранічныя земляробы лучацца ў розныя гадаўляныя і кантрольныя таварыствы, каб разам утрымоўваць гадаўлянага тэхніка (кантралёра), які стала і не радзей як раз у два тыдні адведвае кожнага гаспадара і на падставе кантролі малочнасьці вызначае кармавыя порцыі.

Аб гэткіх таварыствах пры аказіі яшчэ пагаворым. С. Я—віч.

# Małačarstva na ziemlach Zach. Biełarusi.

U apošnim numary „Samapomačy" z kastryčnika m-ca byŭ artykuł ab ziemlarobstvie ŭ Polšču i ŭ nas. U hetym artykule ja chaču źviarnuć uvahu na adnu vielmi važnuju halinu ziemlarobskaj vytvorčaści ŭ nas, na małačarstva.

Małačarstva na šyrejšuju ruku pačało raźvivacca na našych ziemlach niadaŭna, ad 1925 h. Pieršyja pačatki byli vielmi skromnyja. Najbolšaha razhonu nabrała małačarstva tut u 1930 h.—Dla lepšaha paraŭnańnia stanu małačarstva na našych ziemlach z takim-ža małačarstvam u bližejšych i dalšych susiedziaŭ, ja pazvolu sabie padać nastupnuju tablicu.

Tablica № 1. KRAJ

| | Vilenščyna Navahrad. Paleśsie 1929/30 h. | Danija 1928/29 h. | Łatvija 1927 h. | Estonija 1925 h. | Finlandyja 1924 h. |
|---|---|---|---|---|---|
| Płošča kraju u tys. kv. klm. | 89 | 43 | 66 | 48 | 344 |
| Kolkaść pierarabl. masła ŭ klhr. | 23.443.033 | 4.750.000.000 | 870.000.000 | 120.000.000 | 431.000.000 |
| Siarednie kilohramaŭ masła na 1 kv. klm. vornaj ziamli i paśbišča. | 460 | 181.000 | 26.000 | 4.250 | 14.000 |
| Siaredniaja dziennaja pierarobka masła. | kala 250 | kala 8.300 | kala 3.300 | kala 1000 | kala 1.770 |
| Na 1 małačarniu kv. klm. vornaj ziamli i paśbišča. | 200 | 16 | 45 | 70 | 47 |
| Vornaj ziamli i paśbišča ŭ kv. klm. | 50.603 | 26.000 | 33.000 | 28. 00 | 31.000 |

Z tablicy hetaj bačym nastupnaje:

1) Dla pierarobki pakazanaha małaka ŭ nas jość za šmat małačarniaŭ i tamu jany majuć mała małaka, nia mohuć mieć dobrych mašyn, ani naležna vyvučanaha małačara dziela taho, što nia majuć čym za heta płacić.

2) Nia majučy ni adpaviednych mašyn, ni dobraha majstra, hetakija małačarni nia mohuć vyrablać dobraha tavaru i tamu vyrableny tavat zmušany pradavać pa nizkaj canie. — Usio heta adbivajecca na haspadarcy małačarni: małačarnia, sama mała atrymoŭvujučy za vyrableny tavar, nia moža płacić dobrych cenaŭ svaim siabrom za małako.

Tablica № 2.

| | Kolkaść karoŭ 3-ch i bolš hadovych u 1927 h. | | Pierarobka małaka | | Małačarni | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Ahułam | Paśbišča i vornajziamli na 1 kv. klm. | Ahułam kilohramŭ | Vornaj ziamli na 1 kv. klm. | Ahułam | Pierarobka hadavaja | Pierárobka dziennaja | Kolki kv. klm. vornaj ziamli i paśbišča prypadaje na adnu małačarniu. |
| Vilenščyna | 267.571 | 16 | 12.050.901 | 700 | 104 | 115.874 | 319 | 162 |
| Navahradčyn | 226.132 | 17 | 7.695.807 | 570 | 125 | 61.566 | 170 | 107 |
| Paleśsie | 296.914 | 14 | 3.696.325 | 180 | 24 | 154.013 | 424 | 850 |
| Biełastoččyn | — | — | — | — | — | — | — | — |
| Razam siarednie | 790.617 | 16 | 23.443.033 | 460 | 253 | | 250 | 200 |

Z ličbaŭ tablicy № 2 bačym, što ŭsie našy małačarni heta drobnyja pradpryjemstvy. Asabliva kulhaje tut Paleśsie, dzie na adnu małačarniu prypadaje až 850 kv. kilometraŭ vornaj ziamli i paśbiščaŭ. Tymčasam u takoj Paznanščynie na adnu małačarniu vypadaje tolki 60 kv. klm., a na ziemlach zach.-ukrainskich jašče mienš: u vokruzie Tarnopalskim — 51, u vokruzie Lvoŭskim — 25, a ŭ Stanisłavaŭskim — tolki 21.

I na biełaruskich abšarach jość mahčymaść raźvićcia sietki małačarstva. Dobra śviedčyć ab hetym prykład kooperatyŭnaj małačarni ŭ Plisie, Dzisienskaha pavietu. I tut pieršyja pačatki byli vielmi ciažkija, pakul tvorčaja praca nia ŭzbudziła ŭ ludziej samadziejnaści, achviarnaści.

Apiača hetaha ŭzhadavaŭčaha značeńnia, majuć małačarskija kooperatyvy jašče i značeńnie čysta haspadarčaje. Z pakazanych vyšej u tablicach dadzienych vidać, jak mała ŭ nas jość karoŭ u paraŭnańni z płoščaj vornych paloŭ i paśbiščaŭ. A jak niama skaciny, dyk niama i chleŭnaha hnoju, nia treba i dadavać, što nia maje naš haspadar hrošaŭ i na štučnyja hnai. Dziela taho pali našy naležna nie pahnojeny i kiepska rodziać. Atrymlivajecca zapraŭdnaje začaravanaje koła: niama karoŭ — niama hnoju, niama hnoju — niama kormu, niama kormu — niama i karoŭ. Z hetaha tupika daje vychad kooperatyŭnaja małačarnia. Sielanin, jaki prystupaje siabram u małačarniu, zacikaŭleny ŭ tym, kab vyrablać u haspadarcy svajej jak-maha bolš małaka. Vyrablajučy bolš małaka, sielanin uzmacniaje hrašavy abarot u svajoj haspadarcy, padyjmajučy hetym samym i svoj dabrabyt.

Tablica № 3.

| Rajon | 1925 | 1926 | 1927 | 1928 | 1929 | 1930 | 1931 | 1932 | 1933 | 1934 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Vilenščyna | 1 | 6 | 29 | 61 | 69 | 71 | 62 | 53 | 50 | 54 |
| Navahradčyna | 2 | 5 | 16 | 74 | 71 | 53 | 30 | 26 | 26 | 36 |

Tablica № 3 pakazvaje, jak raźvivałasia ŭ nas małačarstva ad samaha pačatku i da apošniaha času. Da 1930 hodu bačym uzrost, bo ceny na małačarskija vyraby byli davoli vysokija. Adnak, jak tolki ŭdaryŭ kryzys, šmat małačarniaŭ u nas nia vytrymali hetaj ahniavoj proby i pačali padać. Jany nie stajali na svaich nahach, jak heta ŭ kožnaj kooperatyvie być pavinna, nia było tut supracoŭnictva, nia było davieru pamiž siabrami kooperatyvy i jejnymi ŭładami. — Ad hetaha času niekatoryja z padupaŭšych kooperatyvaŭ apravilisia, niekatoryja paŭstali nanova. Ale da apošniaha času najhorš stajać u sensie kooperatyŭnaha małačarstva paviety: Śviancianski, Ašmianski i Postaŭski ŭ Vilenščynie, dy Vałožynski, Staŭpiecki, Słonimski i Navahradzki — ŭ Navahradčynie. Los astaŭšychsia małačarniaŭ blizu ŭsiudy zaleža ad taho, jak jany byli abzapasieny adpaviednymi mašynami i jakoha mieli k i r a ŭ n i k a.

Nie biez značeńnia jość tak-ža pierahlad asabovaha składu kooperatyŭnych małačarniaŭ: chto ŭ małačarniu ŭpisvajecca i kamu jana najlepš apłačvajecca? Dla prykładu voźmiem choć-by tuju-ž uspomnienuju ŭžo małačarniu ŭ Plisie. Paŭstała jana ŭ 1928 hodzie i siahońnia maje poŭnaje mechaničnaje abarudavańnie, a ad 1933 h. — i svoj sobski dom. Skład

siabroŭ hetaj kooperatyvy da 1.I.34 h. pradstaŭlaŭsia hetak:

Tablica № 4.

KOLKAŚĆ SIABROŬ.

| | 1928 | 1929 | 1930 | 1931 | 1932 | 1933 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Z 1-nej karovaj . . . . | 6 | 12 | 54 | 105 | 146 | 169 |
| Z 2-mia karovami . . . | 27 | 43 | 72 | 126 | 225 | 253 |
| Z 3-mia karovami . . . | 9 | 11 | 17 | 49 | 60 | 61 |
| Z 4-mia karovami . . . | 1 | 4 | 9 | 26 | 40 | 41 |
| Bolš 4-ch karoŭ . . . . | 12 | 18 | 23 | 32 | 40 | 47 |
| Razam | 55 | 88 | 175 | 338 | 511 | 571 |

Z hetaj tablicy vidać, što ŭ Plisie najbolš pajščykaŭ z 2-mia karovami, choć davoli šmat było i adnakaroŭnikaŭ. Inšyja hrupy siabroŭ byli značna słabiejšyja likam, ale macniejšyja što da mnostva karoŭ, jakija jany mieli. Vidać heta z nastupnaj tablicy № 5.

Tablica № 5.

| Pajščyki dali karoŭ | Lik karoŭ 1928 | 1929 | 1930 | 1931 | 1932 | 1933 | % na kožnuju hrupu pajšč. 1928 | 1929 | 1930 | 1931 | 1932 | 1933 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Pa 1 karovie | 6 | 12 | 54 | 105 | 146 | 169 | 2.3 | 2.9 | 8.9 | 9.6 | 9.8 | 10.4 |
| Pa 2 karovy | 54 | 86 | 144 | 252 | 450 | 506 | 21.3 | 21.1 | 23.8 | 23.1 | 30.2 | 31.1 |
| Pa 3 karovy | 27 | 33 | 51 | 147 | 180 | 183 | 10.6 | 8.1 | 8.4 | 13.4 | 12.1 | 11.3 |
| Pa 4 karovy | 4 | 16 | 36 | 104 | 160 | 164 | 1.6 | 3.9 | 5.95 | 9.5 | 10.7 | |
| Bolš 4-ch | 163 | 261 | 319 | 485 | 551 | 603 | 64.2 | 64.0 | 5295 | 44.4 | 37.2 | 37.1 |
| Razam | 254 | 408 | 604 | 1093 | 1487 | 1625 | | | | | | |

Vidać zhetul, što ŭ Pliskaj małačarni najbolš karoŭ było zapisanych ad tych haspadaroŭ, što majuć pa 4 i bolš štuki. Kab mieć hetulki karoŭ, treba mieć u nas nia mienš 12 ha vornaha pola. Znača i kooperatyŭnaja małačarnia najlepš uspamahaje haspadaroŭ poŭnaziamielnych. Jašče vyraźniej heta vidać napr. u haspadarkach ziemlerobaŭ u Danii, Łatvii, ci Estonii. Zhetul vyvad jasny, što pobač z inšymi mierapryjemstvami, **nadzialeńnie sialan ziamloju** ŭ nas jošć nieadkładnaj kaniešnaściu.

# Апякуйцеся птушкамі.

Надыходзіць зіма. Тысячы і соткі тысяч птушак астаюцца бяздомнымі. А сярод гэтых птушак вялікае мноства ёсьць тых, што чалавеку вельмі карысны, бо бароняць вясной і ўлетку ягоныя сады і агароды ад розных мошак, аваднёў і іншых шкоднікаў.

Большасьць карысных для чалавека птушак належаць да сям'і сьпявуноў і надоўга перад надыходам зімы адлятаюць ад нас у цёплыя краі. Ня мала аднак гэткіх птушак астаецца ў нас і на зіму. Лёс гэтых птушак часта бывае вельмі цяжкі з тае прычыны, што акрамя сьцюжы ім пагражае г а л о д н а я сьмерць.—Гінуць гэтак карысныя птушкі, а па нашых садох і агародах множацца розныя шкоднікі. І ў гэтым вялікая бяда, бо адна напр. сям'я сініц за год зьнішчыць — можа хто не паверыць — аж цэлых 250 кілёграмаў (16 пудоў) розных шкоднікаў. Ня можна дзеля гэтага дзівіцца, што нашы сады і агароды штораз часьцей сьвецяць улетку аб'едзенымі галузкамі: калі чалавек дапускае каб гінулі карысныя для яго птушкі дык на іх месца вольна множацца шкоднікі, каторых няма каму нішчыць.

Ясна згэтуль, што чалавек мусіць зрабіць усё ад яго залежнае, каб лік птушак каля ягонага жыльля не зьмяншаўся, а наадварот, — павялічваўся. Вясной будзем гаварыць аб апецы над птушкамі — сьпявунамі, што прылятаюць да нас з цёплых краёў. Сягоньняж затрымаемся над тымі птушкамі,

---

Apграča vyrabu masła, vialikaje značeńnie ŭ nas moža mieć vyrab syru. Na pieršaje miesca tut vypływaje naša Navahradčyna, dzie ŭ 1928 hodzie naličvałasia až 235 syravarniaŭ, z čaho tolki 3 kooperatyŭnyja; rešta — pryvatnyja.

Padličvajučy ŭsio vyšejskazanaje, prychodzim da nastupnaha vyvadu:

1) Na abšarach Zach. Biełarusi jość mała małačarniaŭ.

2) Małačarni hetyja majuć vielmi mała małaka da pierarobki i tamu heta pierarobka vielmi doraha abchodzicca.

3) Karyść z našych małačarniaŭ čerpajuć pieravažna bahaciejšyja sialanie i dvary.

4) Da ekanamičnaha padniaćcia našaha siała patrebny kanieśna nadzieł sialan ziamloju.

5) Małočnyja haspadarki tych haspadaroŭ, što naležać da małačarni, značna ŭdaskanalvajucca.

6) I drobnaje sialanstva moža mieć značnuju karyść z kooperatyŭnych małačarniaŭ, jak heta vučyć prykład ukraincaŭ na zach. ukrainskich (uschodnie-halickich) ziemlach.

A tamu i naša biełaruskaje sialanstva, pieravažna d r o b n a j e, musić bolš zacikavicca małačarstvam kooperatyŭnym.

P. Z.

што астаюцца зімаваць у нас. Сюды належаць наўперад нашы сініцы, дразды (ня ўсе), дзятлы, чыжыкі, а нават вераб'і і вароны. Аб апошніх двух гатунках трэба ведаць, што яны карысны чалавеку толькі тады, калі не залішне сільна разаўюцца. Асабліва вароны карысны бываюць тым, што за плугам выбіраюць з зямлі розных шкодных рабакоў.

Усе названыя птушкі кормяцца пераважна або мошкамі, або зярняткамі рознага пустазельля. Акрамя гэтых птушак ёсьць яшчэ такія, што кормяцца стравай мясной (ловяць мышэй): гатунак вушатых соваў.

Усіх гэтых птушак разумны гаспадар-земляроб мусіць успамагаць у зімовую пару. Як? Мусіць бараніць іх ад дросных шкоднікай, як каты, ястрабы; мусіць таксама забараніць пад страхам суровай кары дзяцём, каб яны не чапалі птушыных гнёздаў. Вынятак можа быць толькі для варон, калі яны лішне размножацца і абломліваюць крохкія ўзімку галузкі маладога лесу: у гэткім выпадку хапае часам разабраць ім адно-другое гняздо, або стрэліць шротам і вароны адлятаюць.

Што-ж датыча дробных птушак-сьпявуноў, дык іх у зімовую пару трэба абавязкава падкармліваць, асабліва, калі выпадзе сьнег і пацісьне сільны мароз. У гэткую пару жменя найгоршых нават пасьледкаў, ці крошка хлеба ратуе бедных сьпявуноў ад нямінучай сьмерці. А вясной ці ўлетку ўратаваная птушка адудзячыцца за гэта ў дзесяць — сто разоў.

Урэшце што да спосабу падкармліваньня. Практыка паказала, што найлепш сыпаць птушкам корм (які-б ён ня быў) стала ў адно месца. І гэта добра. Бяда толькі, што гэткае месца хутка падглядаюць каты і там нападаюць на безбаронных птушак. Вотжа дзеля гэтага трэба падсыпку для птушак сыпаць не на зямлю, а на дошку, якая прымацоўваецца на калку ўбітым у зямлю у зацішным ад ветру месцы і выглядае быццам столік. Засьнежаную гэткую дошку прад пасыпаньнем новага корму трэба заўсяды да чыста зьмясьці, а калі можна, дык і зрабіць над ёй стрэшку.

Усё гэта патрабуе ад чалавека пэўнай працы і нават коштаў. Але гэта нішто ў параўнаньні з тым, ад якіх страт абароняць уратаваныя птушкі і колькі прыемнасьці даюць яны чалавеку, напаўняючы ягоны двор, сад і гарод вясёлымі сьпевамі.

Дык апякуйцеся птушкамі узімку, а яны адплацяцца ўлетку.

**В. Ш.**



*ПЧАЛЯРСТВА*

## Як і дзе перахоўваць вашчыну

Пры перахоўваньні вашчыны можа быць шкодным: пыл, вогкасьць, мышы і матыліца.

Ад пылу і ад вогкасьці трэба вашчыну хаваць у чыстае, сухое месца; можна — ў мяшкі або ў парожныя вульлі.

Каб да гэтак трыманай вашчыны не дабраліся мышы, яе (вашчыну ў мяшкох) найлепш трэба вешаць. Калі-ж вашчына перахоўваецца ў вульлёх, дык каля вульлёў і ў самым вульлі на дне трэба пасыпаць затрутыя ў стрыхнінавым растворы зярняты пшаніцы. Толькі мышы атручаныя стрыхніпаю ня можна даваць ні катом ні сабакам (яд!), а спаліць.

Матыліца нападае на вашчыну толькі тады, калі гэта вашчына перахоўваецца ў цяпле, напр. у жылой хаце ці ў цёплым склепе (пограбе). Там аднак, дзе вашчына праз зіму трымаецца ў холадзе (на двары), там трэба асабліва на яе ўважаць калі пацяплее, бо ў гэту пару на яе нападае матыліца. Радзяць у гэту пару пасыпаць рамкі вашчынавыя дробнай сольлю, пад рамкі кладуць нафталіну або ўрэшце даюць на рамкі па каплі нітробэнзолю. Калі рамкі з вашчынай зімавалі зложаныя на кучу, дык з настаньнем вясны трэба іх хутчэй расставіць, бо пры зьбітых густа рамках з зложаных яечак матыліцы хутка выклюваецца дасьпелая матыліца і далей размнажаецца. Ня любіць таксама матыліца працягу сьвежага паветра. І на той выпадак, калі вашчына зімуе ў шчыльна зачыненых скрынках, скрынкі гэтыя трэба прынамся двойчы ў год выкурваць серкай: раз увосені і раз вясной.

*П. Т—к.*

## Танная фарба для вульлёў

Маляваны вулік даўжэй трывае, але маляваньне звычайнай пакоставай фарбай даволі хлапатлівае (сохне два дні), мае свомы запах і дорага каштуе. У „Укр. Пас—ку" (№ 11/1935) знаходзім цікавае апісаньне прыгатаваньня фарбы хатнім спосабам. Выглядае яно гэтак:

Бярэцца 1 кілё звычайнага добра выцісьненага поснага сыру і праціраецца праз сіта. У асобнай судзіне ў 2 літрах гарачай вады распускаюцца: 3 дэка борнага квасу, 10 дэка бораксу і 2 дэка амонавага вугляну (дастаць у аптэчным складзе). У гэты раствор дадаецца малымі порцыямі расьцёрты сыр, стала мяшаецца, аж пакуль сусім не распу-

сьціцца. Як гэта станецца, даліваем асьцярожна 60 дэка добрага, скора сохнучага покасту і ўзноў мяшаем, пакуль усё дакладна не перамяшаецца. Атрымліваецца гэтак зв. казэінавы покаст (казэіна ёсьць у сыры).

Прыгатаўляючы самую фарбу з гэтага покасту трэба насамперш з фарбы і покасту (або вады) зрабіць і добра расьцёрці густую масу (кашу), каторую пасьля толькі разбаўляем дальшым прыліваньнем раней прыгатаванага казэінавага покасту. Да розных колераў фарбы дадаецца рознае мноства покасту. І так:

Прыгатаўляючы **брунатную** фарбу, бяром 110 частак казэінавага покасту і 50 частак самага парашку фарбы охры, прад тым перамешанай і расьцёртай з покастам на густую масу.

**Чорная** фарба прыгатаўляецца з 50 частак казэінавага покасту і 15 частак сажы.

**Бранзовая:** 150 частак каз. покасту і 50 частак „сіены“ або „капут мортуум“.

**Белая:** 50 частак казэін. покасту і 30 частак цынкавай белі або 50 частак алавяных бялілаў.

Колькі такая фарба можа каштаваць?

| | | |
|---|---|---|
| Вада . . . | 2 кілё | 0 гр. |
| Сыр . . . | 1 „ | 40 „ |
| Боракс . . | 10 дэка | 20 „ |
| Борны квас | 3 „ | 18 „ |
| Амонавы вуглян | 3 „ | 10 „ |
| Покаст . . | 60 „ | 1.20 „ |
| Разам | 3 кілё 75 дэка | 2 зл. 08 гр. |

або адно кілё казэінавага покасту будзе каштаваць (2.10 : 3.75) = 54 грашы.

А цяпер колькі будзе каштаваць кілё такой фарбы?

**Белая** фарба:

| | |
|---|---|
| 0.50 клг. казэін. покасту . | 27 гр. |
| 0.50 „ алавян. бяліла . | 1.50 „ |
| Разам 1.00 клг. белай фарбы . | 1.77 гр. |

Фарба **брунатная (охра):**

| | |
|---|---|
| $^{2}/_{8}$ клг. казэінавага покасту | 38 гр. |
| $^{1}/_{8}$ „ охры . . . . . . | 20 „ |
| Разм 1 кілё фарбы охра . . . | 58 гр. |

Маляваць гэтай фарбай трэба 2—3 разы, кожны раз пачакаўшы $1^{1}/_{2}$—2 гадзіны. Каб фарба лепш высыхала, дадаюць тэрпэнтыны, а каб выглядала як ляк — дадаюць шэляку.

*а. к.*



**Ф. Акінчыц** *У парадку дыскусіі.*

# Аграрна-коопэратыўная палітыка будучыні. 7)

### Коопэратыўная культура.

Для правядзеньня ў жыцьцё рэканструкцыі сельскай гаспадаркі на коопэратыўных падставах патрэбны аграмадны запас кваліфікаваных працаўнікоў, пры ад аведнай ступені коопэратыўнай сьведамасьці грамадзянства. Адных добрых плянаў, нават найлепш пабудаваных, у гэтакай складнай справе яшчэ мала.

Перадусім, будзе патрэбны вялікі запас добра падгатаваных арганізатараў коопэрацыі, якія маглі-б кіраваць цэлымі скоопэраванымі раёнамі, мець у сабе творчую ініцыятыву, а да таго маглі-б яе зрэалізаваць на практыцы. Кадры падобных спэцыялістаў мусяць быць прыгатаваны тэорэтычна і абазнаны з практыкаю.

Далей, патрэбна цэлая армія выканаўчых коопэратыўных сілаў, як коопэратыўныя інструктары, бухгальтэры і п. д., розныя тэхнічныя фахаўцы з паасобных галін сельскай гаспадаркі: іхным заданьнем будзе абслугоўваньне коопэратыўных аб'яднаньня.

Сарганізаваньне гэтакай арміі коопэратараў і тэхнічных працаўнікоў будзе вымагаць часу і матарыяльных сродкаў: школы, курсы, выстаўкі,—калі коопэрацыя мае выканаць такую паважную конструктыўную роль, яна павінна стацца прадметам самастойнага навучаньня ў асобных школах, а ня быць нейкім малазначным дадаткам да навучальных плянаў, як гэта наглядаецца цяпер.

Гэтак, напрыклад, у Нямеччыне навучаньне коопэратыўнай тэорыі праводзіцца*) пры дапамозе коопэратыўных сэмінараў, арганізаваных пры некаторых юрыдычных і эканамічных факультэтах, або ўвядзеньнем коопэрацыі ў праграму вышэйшых школаў, як асобнага прадмету навучаньня.

З агульнай колькасьці 134 доктарскіх дысэртацыяў аб социяльных арганізацыях, каторыя былі прачытаны у 1924 г. у вышэйшых школах Нямеччыны — 58 дысэртацый былі прысьвячаны коопэратыўнаму руху.

Даволі салідна было пастаноўлена навучаньне коопэрацыі і ў Украінскай Сельска-Гаспад. Акадэміі у Чэхаславаччыне. Там існаваў асобны коопэратыўны аддзел, як адзін з 3-х аддзелаў эканамічна-коопэратыўнага факультэту Акадэміі, дзе выкладаліся, акрамя агульных эканамічных дысцыплінаў,— тэорыя коопэрацыі, гісторыя коопэрацыі.

*) да часу Гітлераўскага перавароту—р э д.

Redaktar-Vydaviec inž. A. KLIMOVIČ
Z upavažnieńnia Biełaruskaha Instytutu Haspadarki i Kultury ŭ Vilni.

спажывецкая коопэрацыя і вытворчая коопэрацыя.

Чэскія коопэратары маюць добра сарганізаваную асобную Вышэйшую Коопэратыўную Школу.

Бязумоўн", што нават такая пастаноўка справы як у Нямеччыне ці Чэхаславаччыне, задаволіць нас ня можа. Але сам факт навучаньня сьведчыць аб тым, што й сучасныя буржуазныя дзяржаны пачынаюдь зьвяртаць увагу на коопэрацыю. Так вялікая рэформа, якая павінна быць праведзена у аграрнай галіне, ня можа абыйсьціся бяз кадраў вышкаленых і інтэлігэнтных сілаў. Адсутнасьць гэтакіх сілаў вельмі адчуваецца ў Саветах, што, між іншым, значна прычыняецца да таго хаосу, які пануе там у галіне сельскай гаспадаркі Вось што, напрыклад, казалі самі камуністы ў сваім воргане для партыйнага актыву:

„Тое, што мы маем цяпер у галіне арганізацыі такой падгатоўкі (г. зн. падгатоўкі арганізатараў і кіраўнікоў колектыўных гаспадарак—Ф.А.) сьмешна мала: усяго толькі курсы на колькі сот чалавек, у той час як у нас ёсьць больш 40.000 кіраўнікоў калектыўных гаспадарак, з каторых значная частка няграматных у літэральным і агранамічным сэнсе (а яны павінны быць кіраўнікамі буйнай колектыўнай гаспадаркі!). Пытаньне пра кадры калгаснага руху проста такі «вопіет» і вымагае найхутчэйшага вырашэньня на практыцы". (Большевик" №7—1929 г. бач. 95). Варта зазначыць, што пытаньне гэта „вопіет" у Саветах і да сяньняшняга дня...

Акрамя тэорэтычнай і практычный падгатоўкі працаўнікоў, асаблівая ўвага павінна быць зьвернена на коопэратыўна грамадзкае ўзгадаваньне моладзі ў школах. Трэба паставіць сабе выразную мэту: пашырыць у масавым масштабе колектывістычную ідэолёгію. Выкананьне гэтакага заданьня выгадней усяго пачынаць з дзіцячага веку, больш успрыймчывага да ўсяго новага. Будучая школа, пабудаваная на працоўных падставах, павінна даць маладому пакаленьню ня толькі пэўны запас тэорэтычнай веды, але мусіць прышчапіць прафэсыянальныя навыкі, пашану і любоў да працы, а самае галоўнае— узгадаваць новы тып чалавека, каторы адрозьніваўся-б ад сучаснага, прасякнутага эгоізмам і індывідуалістычнаю ідэолёгіяю.

На гэтую акалічнсьць зьвярнуў увагу яшчэ Робэрт Оўэн, а за ім і К. Маркс, каторы, ня гледзячы на свае памылкі у агульна-эканамічнай тэорыі, у гэтай справе зусім слушна кажа, што з сыстэмы запрапанаванай Оўэнам „вырас зародак узгадаваньня будучыні, якая для ўсіх дзяцей з пэўнага веку злучыць вытворчую працу з навукаю і гімнастыкаю, пры чым гэта будзе ня толькі мэтадам п вышэньня грамадзкага вырабу, але і адзіным мэтадам стварэньня усебакова разьвітых людзей."(К. Маркс. Капітал т. I стр. 375). Дзеля гэтага ніколі ня трэба забывацца пра такі мэтад стварэньня патрэбнага нам тыпу людзей, каторы павінен быць узгадаваны у адпаведным кірунку.

# Наша пошта.

К. Лапко, К. Каладынскі, П. Мукасей, Я. Лабука, Б. Гарнастай, С. Багдзель. А. Чэраповіч. А. Бурбіцкі, Я. Кажан, Я. Шыхалай, Н. Панасюк — пробныя нумары „Самапомачы" пасылаем. Чакаем абяцанай падпіскі.

Ал. Ан—ко: пісьмо атрымалі. Як сьведка ня можа сьцьвердзіць, што гэныя нумары „Сам—чы" сапраўды былі адрэсаваны для Я. М—ка, дык няма з чым пачынаць судовай справы. — Прывітаньне. Верым, што датрымаеце слова

Я. М—нак: Спачуваем Вам у бядзе, але памагчы тут ніяк ня момам (гл адказ папярэдні). У справе адказу на Ваша пытаньне быў такі адказ у №8 сёл. „Сам—чы". Прачытайце яго. Але сягоньня мы ўжо ня можам памятаць гэтай справы і дзеля таго калі хочаце мець раду, дык мусіце апісаць цэлую справу ад пачатку — Аб лёне будзем пісаць. — Ваш артыкул аб памідорах зьмесьцім пад вясну, бо цяпер гэта не на часе. Калі маеце што болей напісанага аб гародніцтве - прысылайце. Прывітаньне!

Я. Кажан: Аб плодазьменах можаце даведацца з кніжкі „Ziemlarobskaja čytanka" — інж. Клімовіча. Каштуе 1 зл. Дастаць можаце праз нашу рэдакцыю.

Я. Мат—ак, Я. Яр—віч, Т. Г—тар, А Аш—скі, М. Бабіло, к-ва „Рольнік" — падпіску атрымалі, дзякуем. Пастарайцеся сарганізаваць у сябе дзесяткі падпішчыкаў „Самапомачы": Вам гэта таней будзе абходзіцца, а нам выгадней пасылаць.

С. Буг—ская: атрымалі, дзякуем, пастараемся скарыстаць Быў выпадак ужо нейдзе ў Польшчы, што за варэньне цукровага сыропу суд караў. Аб сьпяленьні мёду пісалася летась у „Самапомачы". Есьць так-жа аб мёдзе і ў „Ziemlarobskaj čytancy" (гл. вышэй).

Усіх, хто дагэтуль не аплаціў падпіскі на „Самапомач," просім гэта зрабіць як найхутчэй. Грошы перасылайце спосабам паказаным на 2-ой бачыне вокладкі.

# Ceny na pravincyi

(*Za 100 kilo, ad 1 da 15.11.35*).

**U Navahradku:**

| | |
|---|---|
| Žyta . . . . . . . . . . | 9 60—10.50 |
| Pšanica . . . . . . . . . | 16 50 – 16 80 |
| Jačmień . . . . . . . . | 10 00 10 50 |
| Avios . . . . . . . . . | 9.50 – 12.60 |
| Bulba stałovaja. . . . . . | 2.40— 3.00 |
| Siena murožnaje . . . . . | 2.40 3 00 |
| Siena kaniušynnaje . . . . | 4 20— 4.50 |
| Skacina na miasa (za kilo žyv v.) | 0.35— 0 42 |
| Svini kormnyja (kilo žyv. vahi) . | 0,75— 1.10 |
| Masła prasavanaje (kilo) . . . | 1 00— 1.50 |
| Jajki štuka . . . . . . . . | 6 hrašoŭ. |

